**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№ 40 (756) 2 кастрычніка 2014 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

# Вольнае Глыбокае

vglybokaye@tut.by



Фота Марыны Сінкевіч



# Касцёлу ў Лужках – 270 гадоў

Святкаванне адбылося ў панядзелак 29 верасня на дзень святога Міхала Арханёла, тытул якога носіць касцёл. Нягледзячы на рабочы дзень, у храме сабралося даволі шмат вернікаў, прысутнічалі і прадстаўнікі мясцовай улады. На свята прыбылі таксама святары з іншых парафій.

Перад набажэнствам мясцовы краязнаўца Эдмунд Гірын прачытаў даклад, у якім узгадаў гісторыю святыні.

Напрыканцы Імшы прысутныя павіншавалі пробашча парафіі ў Лужках ксяндза Міхала Татарэнку з імянінамі, а прадстаўнікі мясцовай улады падаравалі ксяндзу карціну з выявай лужэцкага касцёла.

Гэты год быў шчодры на юбілеі ў Лужках: само мястэчка месяц таму адзначыла свой паўтысячны юбілей, а нядаўна і мясцовая праваслаўная царква святкавала сваё 220-годдзе.

Глыбоцкі раён

# Уклад у багаты каравай

■ Станіслаў Раманчук

**Ад людскіх намаганняў залежыць поспех у любой справе, а вось у вяскоўцаў многае значаць яшчэ і ўмовы надвор'я.**

Няпростым быў сёлетні год і для аграрыяў Глыбоцкага раёна, але яны сёлета аднымі з першых на Віцебшчыне адсеяліся і потым першымі завяршылі жніво. З пачуццём годна выкананага экзамену сабраліся нядаўна лепшыя хлебаробы краю ў Доме культуры аграгарадка Удзела, дзе прыгожым сонечным суботнім днём адбыліся раённыя “Дажынкі-2014”. Па валавым намалоце гэта гаспадарка апярэдзіла ўсіх, а па ўраджайнасці саступіла першынство толькі працаўнікам сельгасфіліяла “Мнюта” Глыбоцкага МКК. Гэтага дасягнуць было сёлета няпроста, тым не менш раён зладжана правёў уборку за тры тыдні працы, намалаціў болей 65 тысяч тон збожжа. На хлебаробскім свяце ў Удзеле пахла свежым хлебам, на сцэне красаваўся прыгожы апошні зжаты сноп зерня новага ўраджаю. Ды і шмат слоў удзячнасці прагучала на раённых “Дажынках” менавіта ў гонар гаспадароў свята, дзе з’явіліся першыя камбайнеры-тысячнікі С. Сямашка і К. Волк, а таксама парадаваў эксперыментальны ўчастак па вырошчванні гібрыднага рапсу. Ад кіраўніцтва раёна былі ўручаны прэміі і падзячныя пісьмы і яшчэ лепшым удзельнікам жніва з такіх гаспадарак, як “Канстанцінаў Двор”, “Залатая падкова”, “Азярцы”, “Чарневічы” і іншых. Працаўнікоў вёскі парадавала і канцэртная праграма, а каб урадзіла ніва і ў наступным годзе, лубок з асвечаным зернем перадаў кіраўніку райсельгасхарча мясцовы святар, ксёндз Марат.

Пастаўскі раён

# Пазнаюцца ў бядзе

■ Кастусь Александровіч

**Ужо некалькі месяцаў у сувязі з ваеннымі дзеяннямі ў Данбасе на ўсходзе Украіны і ў беларускія рэгіёны сталі прыбываць людзі, якія апынуліся ў бядзе.**

Вось і ў Пастаўскім раёне з сярэдзіны красавіка звярнуліся ў аддзяленне па грамадзянстве і міграцыі райаддзела міліцыі звыш 70 украінцаў. З іх ужо 20 грамадзян суседняй краіны атрымалі дазвол на часовае і пастаяннае пражыванне, астатніх пакуль зарэгістравалі па месцы знаходжання. Акрамя гэтага ў райцэнтры прайшла акцыя па збору дапамогі вымушаным бежанцам ад вайны ў выглядзе самага неабходнага для жыцця, цёплага адзення і абутку. На Пастаўшчыне пачалавечы аднесліся да людскога гора, пастараліся дапамагчы месцамі пражывання і працы. У прыватнасці, у райбальніцы працаўладкавалі дыпламаванага ўрача і вопытную медыцынскую сястру, знайшлася праца і для юрысконсульта. Яшчэ прасцей было абаснавацца на новым месце тым уцекачам, у каго ў гэтай мясцовасці жывуць родныя і блізкія. Сям’я патомнага маладога металурга з-пад Луганска Віктара Іванова вымушана была пераехаць у бабуліную хату ў вёсцы Петрагі. Пазней іх запрасілі на працу на новую рабатызаваную ферму сельгаспрадпрыемства “Навасёлкі-Лучай”, дапамаглі грашыма на першы час. Шчыра, па-людску да ўцекачоў аднесліся і аднавяскоўцы, дапамаглі абжыцца ўсім, хто мог. Лёс практычна кожнага бежанца адсочваецца, яны не засталіся без дапамогі і падтрымкі, а беларусы прадэманстравалі яшчэ раз, што яны – сапраўдныя людзі.

Полацкі раён

# З глыбінь стагоддзяў

■ Чэслаў Якубовіч

**Зусім невыпадкова працяглы час старажытны Полацк захоўвае за сабой славу аднаго з самых прыгожых і культурных цэнтраў Беларусі.**

Некалькі гадоў старанна рыхтаваліся тут, каб адкрыць унікальную мастацкую выставу. Яна размясцілася ў Мастацкай галерэі мясцовага Нацыянальнага гісторыка-культурнага музея-запаведніка і сабрала вялікую колькасць удзельнікаў, афіцыйных асоб, дзеячаў культуры і таксама манахінь Спаса-Еўфрасіньеўскага манастыра. Усе прысутныя адчулі сапраўднае хваляванне, бо з глыбінь стагоддзяў можна пабачыць сапраўднае пасланне патомкам самой заступніцы Беларусі. Менавіта па задумы Еўфрасінні Полацкай у свой час маляваліся фрэскі і ажыццяўлялася ўнутраная размалёўка старажытнай царквы. Удалося дзякуючы намаганням айчынных і расійскіх спецыялістаў, вучоных і рэстаўратараў выявіць і захаваць малюнкі, якія наносіліся на сцены амаль тысячу гадоў назад. Праца гэта была карпатлівая і цяжкая, сучасныя мастакі працавалі ў рэспіратарах, за дзень адслойвалі скальпелямі, як хірургі, толькі дзясятак дэцыметраў роспісу. Потым па распрацаванай тэхналогіі яго наносілі на марлю і замацоўвалі на новай аснове. За 6 гадоў упартай працы ўдалося давесці задуму да канца, а на выставе наведвальнікі могуць убачыць цэлых 150 кв. метраў рэлігійнага жывапісу, шэраг абразоў і культавых рэчаў, знойдзеных падчас раскопкаў у горадзе над Дзвіной.

# Аб самым надзённым

## АДРАДЗІЦЬ БЫЛУЮ СЛАВУ БЕЛАРУСКАГА ЛЬНАВОДСТВА І СВІНАГАДОЎЛІ БУДЗЕ НЯПРОСТА



■ Аляксандр Цішкевіч

**Трэба зазначыць, што лён – заўсёды быў працаёмкай культурай, але за савецкім часам, калі ў калгасах хапала людзей і болей было ручной працы, ён з’яўляўся, як пісалі тады, “сапраўдным манетным дваром”.**

Калі ў нейкай сферы айчыннай эканомікі справы незайздросныя, то абавязкова чакай рэагавання беларускага кіраўніцтва, а то і крайніх аргвывадаў з указаннямі вінаватых арыштаваць, прыцягнуць да судовай адказнасці за пралікі і ўпушчэнні. Вось і днямі невыпадкова з удзелам главы дзяржавы прайшла спачатку спецыяльная выязная нарада на Аршанскім ільнокамбінаце. А ўжо праз некалькі сутак А. Лукашэнка ўжо ў сваёй рэзідэнцыі правёў новую нараду па аднаўленні пагалоўя свіней і вытворчасці свіного мяса да ўзроўню лепшых часоў.

Дарэчы, на Віцебшчыне А. Лукашэнка сам прызнаўся, што яго цягне сюды, бо ён тут нарадзіўся і пражыў некалькі гадоў, пакуль ягоная маці з сынам не пераехалі з мясцовага льнозавода назад у вёску. Як бы там не было, а беларускі лідар самую пільную ўвагу ўдзяляе менавіта льнаводству, неаднаразова прыязджаў сюды, бываў на льнозаводах, а менш пяці гадоў назад правёў у Оршы буйную нараду па праблемах гэтай галіны з зацвярджэннем бізнес-плана развіцця заводаў і гіганта-мясцовага льнокамбіната. На жаль, мала што змянілася з таго часу, як хацелася, становішча спраў засталося нездавальняючым.

Галоўнае, што беларускія льнаводы не навучыліся вырошчваць валакно сусветнага ўзроўню, хоць летась у Оршы закончылі мадэрнізацыю асноўнай фабрыкі № 3. У выніку галіне далёка да экспартных паказчыкаў здабычы валюты ў адрозненне ад той жа вытворчасці металаў, калійных угнаенняў і нафтапрадуктаў. Праўда, у гэтай пяцігодцы ў Беларусі правялі тэхнічнае пераўзбраенне нават 10 ільнозаводаў, яшчэ дзясяткі састарэлых прадпрыемстваў галіны спынілі сваю дзейнасць. Крыху павысілася ў перадавых гаспадарках ураджайнасць ільна, аднак нам яшчэ далёка да ўраджаю еўрапейскіх фермераў (16-18 цэнтнераў ільновалакна з гектара), а кітайцы апярэджваюць беларусаў нават у 3 разы.

Трэба зазначыць, што лён – заўсёды быў працаёмкай культурай, але за савецкім часам, калі ў калгасах хапала людзей і болей было ручной працы, ён з’яўляўся, як пісалі тады, “сапраўдным манетным дваром”. Не толькі ўдарнікі-паляводы добра зараблялі, вяскоўцы ахвотна бралі ўчасткі рваць лён уручную, бо за гэта выдзялялі дзялкі для сенакосаў ды і на лянішчах былі нядрэнныя травы. Вось тады траў людзям не хапала, а жыўнасць на панадворках, па некалькі кароў і свіней трымалі ўсе.

Аднак з цягам часу меней засталося сапраўдных гаспадароў на зямлі і, як падкрэслівалі спецыялісты на нарадзе ў Оршы, дрэнна гаспадаркі і самі льнозаводы сеюць лён, не ў аптымальныя тэрміны. Бывае, што і землі для льну выдзяляюцца не самыя добрыя, парушаюцца тэхналогіі яго вырошчвання з-за зношанай тэхнікі, нявопытных механізатараў. Як правіла, уборка лёну штогод зацягваецца, яго да халадоў падымаюць па прымусу гараджане, што адбіваецца на якасці льнотрасты. Але і калі сыравіна прыдатная, многія заводы не ў стане атрымаць якаснае валакно, з-за складанага фінансавага становішча маюць даўгі перад гаспадаркамі-пастаўшчыкамі, што ў рэшце рэшт адбіваецца на дзейнасці льнокамбіната, а сама льнаводчая галіна ў Беларусі застаецца стратнай.

Вось чаму ёй кіраўнік дзяржавы надаў палітычнае значэнне і даручыў ні ў якім разе яе не загубіць канчаткова. Нягледзячы на ўсе цяжкасці, на месцах будуць вырашаць задачу, каб былі максімальна загружаны заводы ў глыбінцы і іх галоўны партнёр у Оршы. У бліжэйшы час з’явіцца адпаведная пастанова, будуць вызначаны аб’ёмы фінансавання на закупку новага тэхналагічнага абсталявання і сельгастэхнікі, а застанецца працаваць у краіне толькі 25 льнозаводаў.

Вельмі хацелася б, каб становішча спраў тут нарэшце папраўлялася, хоць пэўныя апасенні, што будзе “як заўсёды” застаюцца. А вось з задумкі ўжо ў 1-м квартале 2015 года аднавіць страчанае з-за АЧС пагалоўе свіней, ужо праз паўгода будзем бачыць, што з яе атрымаецца. Пакуль жа малюнак незайздросны: свініна стала вельмі дарагой і дэфіцытным таварам на прылаўках. Ды і ў нас на Віцебшчыне пацярпелі да двух дзясяткаў свінакомплексаў і меншых па памеру свінаферм, дзе зараз ідуць работы па іх дэзінфекцыі, рамонце, а пазней будуць зноў ставіць маладняк. Яшчэ адзін айчынны парадокс: да крызісу ў свінагадоўлі там са стратамі працавалі шэраг гаспадарак з-за праславутай калгаснай безгаспадарчасці.

На нарадзе ў Мінску знайшлі просты выхад: самыя прыбытковыя галіны і прадпрыемствы атрымалі даручэнні ў кожнай вобласці пабудаваць аператыўна па сучасным свінакомплексе з пагалоўем не меней 24 тысячы галоў. І далейшая вытворчасць свіней будзе сканцэнтравана на такіх вось буйных цэнтрах свінагадоўлі. Аднак у раёнах і ад малых свінаферм не будуць адмаўляцца, толькі іх абнясуць агароджамі. У красавіку будучага года пабачым, што з амбіцыйных планаў атрымаецца, але штосьці, як паказвае жыццёвы вопыт, прадказвае, што танную, як у суседзяў, свініну беларусы яшчэ не хутка будуць купляць.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 02.10.14 | | | | Пятніца 03.10.14 | | | | Субота 04.10.14 | | | | Нядзеля 05.10.14 | | | | Пн.06.10. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +4 | +6 | +11 | +5 | +4 | +6 | +12 | +6 | +5 | +7 | +13 | +8 | +8 | +9 | +12 | +6 | +3 | +5 | +9 |
| Ціск | 760 | 762 | 761 | 760 | 760 | 761 | 760 | 759 | 759 | 759 | 758 | 757 | 756 | 757 | 756 | 757 | 757 | 759 | 759 |
| Вільготнасць | 97 | 84 | 54 | 88 | 94 | 88 | 56 | 93 | 95 | 90 | 64 | 95 | 99 | 100 | 77 | 94 | 98 | 92 | 59 |
| Вецер м/сек | 3 У | 2 У | 2 Пд-У | 3 Пд-У | 3 Пд-У | 2 Пд-У | 0 ШТЛ | 2 Пд | 2 Пд | 1 З | 1 Пн | 1 Пн-У | 1 Пд-У | 1 Пн-У | 4 У | 5 У | 4 У | 4 У | 6 Пд-У |

## Дзень за днём

**Сукупны знешні доўг Беларусі перавысіў 40 мільярдаў долараў. А. Лукашэнка зноў прызнаў, што ў краіне даўно трэба было павышаць пенсійны ўзрост. З-за аслаблення расійскага рубля сталі расці даўгі (больш 300 мільёнаў долараў) пакупнікоў з Расіі беларускіх прадуктаў. Беларусь падпісала гістарычнае пагадненне з Ізраілем аб адмене ўязных віз. З 1 кастрычніка беларусам забаранілі пагранічнікі часова перасякаць граніцы з ЕС пешшу. З абарачэння неўзабаве выведуць купюры вартасцю 50 рублёў.**

# Важнейшыя навіны свету

**Шатландыя.** Большасць шатландцаў ( 55,3 %) на рэферэндуме прагаласавалі супраць незалежнасці і аддзялення ад Англіі, брытанскі фунт стэрлінгаў адразу ўмацаваўся.

**Бельгія**. Еўрапарламент вельмі жорстка асудзіў Расію за "гібрыдную вайну" ў Данбасе і заклікаў ЕС спыніць з ёй эканамічнае супрацоўніцтва, адключыць ад фінансавай сістэмы.

**Украіна.** Пад дзеянне новага закона аб люстрацыі патрапяць каля 1 мільёна чыноўнікаў і супрацоўнікаў праваахоўных органаў, Савет Еўропы прызнаў удзел РФ у вайне там.

**Расія.** За пару гадоў РФ, як папярэдзіў міністр фінансаў А. Сілуанаў, можа вычарпаць усе свае рэзервавыя фонды пры зніжэнні сусветных цэн да 80 долараў за баррэль нафты.

**Германія.** Сродкі масавай інфармацыі краіны паведамілі аб заяве У. Пуціна, што пры жаданні рускія войскі могуць за два дні ўвайсці ў Вільнюс, Варшаву, Бухарэст і шэраг іншых сталіц дзяржаў ЕС.

**Расія.** Пасля арышту бізнесмена У. Еўтушэнкава яго кампанія АФК "Сістэма" страціла 37 % кошту і да 20 % актываў, для інвестараў – гэта вельмі дрэнны знак, куды спаўзае РФ.

**Украіна.** Прэзідэнт П. Парашэнка заявіў, што выйграць вайну ў Данецку і Луганску можна толькі мірам, але сваю армію краіна будзе толькі ўмацоўваць.

**Польшча.** З канвеера завода кампаніі "Glaspo Motors" у горадзе Плоньску Мазавецкага ваяводства сышоў першы беларускі МАЗ, у год будуць рабіць да 500 штук на рынак РП.

**ЗША.** На першым Беларуска-амерыканскім форуме прэм'ер-міністр РБ М. Мясніковіч пацвердзіў, што з амерыканцамі разглядаецца магчымасць пашырэння штатаў пасольстваў.

**Францыя.** Кампанія Renault распрацавала новую мадэль свайго аўтамабіля з гібрыдным рухавіком з расходам паліва 1 літр на 100 км прабегу, яе ўбачаць на аўтасалоне Парыжа.

**Венгрыя.** У сталіцы краіны Будапешце на тэрыторыі ўніверсітэта эканомікі дэмантавалі апошнюю бронзавую скульптуру Карла Маркса, яе ўстанавілі там у 1959 годзе.

**Польшча.** Упершыню ў гісторыі ўрад краіны ўзначаліла жанчына Ева Копач, кіравась паліцыяй – Тэрэса Пятроўская, міністрамі сталі яшчэ дзве жанчыны-палячкі.

**ЗША**. Упершыню за апошнае паўстагоддзе на "гістарычнай радзіме" джынсаў упалі на 6 % продажы самага зручнага і папулярнага ў свеце адзення для мужчын і жанчын.

**Японія.** Спецыялісты кампаніі Furukawa Batteri распрацавалі аккумулятар, які працуе на прэснай і марской вадзе, ім можна зараджаць смартфоны і мабільныя тэлефоны.

**Швейцарыя.** Як і чакалася, Мінск не выбралі ў лік 13 гарадоў для правядзення матчаў чэмпіянату Еўропы-2020 па футболе, Беларусь не мае патрэбных футбольных арэн.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Прэм'ер-міністр М. Мясніковіч прызнаў, што сёлета да 17,7 % павялічылася ў Беларусі колькасць нізкаэфектыўных і нерэнтабельных прадпрыемстваў.

**Заслаўль.** Галоўны ідэолаг Міншчыны Р. Трухан забараніў у мясцовым дзяржмузеі выставу "Заходнебеларуская Атлантыда" пра ўз'яднанне беларускіх земель у 1939 годзе.

**Мінск.** Усяго праз суткі дзяржаўнае агенцтва БелТА змяніла выказванні віцэ-прэм'ера П. Прапаковіча аб павышэнні падаходнага падатку, журналіста зрабілі "крайнім".

**Пружаны.** Дырэктара буйной гаспадаркі "Ружаны-агра" затрымаў КДБ пры атрыманні буйнога хабару – 25 тысяч долараў, дома знайшлі яшчэ 232 тысячы $ і 10 тысяч еўра.

**Мінск.** У знак пратэсту супраць агрэсіі РФ ва Украіне ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў" не паехала ў Маскву на штогадовую канферэнцыю еўрапейскіх СМІ.

**Ваўкавыск.** Міліцыя затрымала п'янага 49-гадовага гараджаніна, які спачатку абліў кіпятком сваю грамадзянскую жонку, а потым нанёс ёй шмат удараў нажом.

**Мінск.** З пачатку года, як адзначыў вядомы эканаміст Я. Раманчук, заробкі беларусаў узраслі на 3,6 %, але рэальна даходы іх знізіліся з-за большай інфляцыі, росту паслуг.

**Магілёў.** Абласны суд пакараў па 13 гадоў турмы двух 16-гадовых падлеткаў з Бабруйска, якія сёлета вясной на пляжы на рацэ Бярэзіна жорсткім чынам забілі дзіця.

**Мінск.** Урад Беларусі ўстанавіў месячны тэрмін на засяленне ў пабудаваныя новыя шматкватэрныя жылыя дамы з дня прыёмкі іх у эксплуатацыю.

**Гомель.** Міліцыя вобласці забараніла гараджанам і гасцям арганізоўваць ля рэстаранаў і кафэстыхійныя начныя фейерверкі, ад іх узнікалі пажары, людзі траўміраваліся.

**Жодзіна.** З-за праблем з пашпартам і візай у Непале ў аэрапорце Катманду затрымалі 25-гадовую Вольгу Каптур, яна паехала туды валанцёрам будаваць школу, вучыць дзяцей.

**Мінск.** На сустрэчы з чытачамі знакамітая ў свеце беларуская пісьменніца Святлана Алексіевіч заявіла аб прадчуванні новай вялікай вайны і мы нічога не можам зрабіць.

**Чэрвень.** На глебе рэўнасці падчас сваркі п'яная жыхарка райцэнтра ледзь не зарэзала нажом свайго 34-гадовага мужа, яго са шматлікімі ранамі даставілі ў райбальніцу.

**Раўбічы.** Зноў перанеслі тэрміны здачы ў эксплуатацыю пасля рэканструкцыі біятлоннага стадыёна, ён практычна гатовы прыняць у лютым 2015 года юніёрскі чэмпіянат свету.

**Мінск.** У сталічным кінатэатры "Октябрь", у Вільнюсе і Маскве запланавалі прэм'еру новага фільма "Белыя росы, Вяртанне", стужку пакажуць і ў абласных цэнтрах краіны.

## У Беларусі ўстаноўлены месячны тэрмін на засяленне ў пабудаваныя шматкватэрныя дамы



■ БелаПАН

**У Беларусі ўстаноўлены месячны тэрмін на засяленне грамадзян у пабудаваныя шматкватэрныя дамы. Такая норма вызначана распараджэннем прэм'ер-міністра № 270р ад 20 верасня 2014 года.**

Як паведамляе прэс-служба ўрада, засяліцца ў месячны тэрмін з дня прыёмкі шматкватэрнага жылога дома ў эксплуатацыю змогуць грамадзяне, якія ў поўным аб'ёме разлічыліся за выкананыя работы. Пры гэтым «невыкананне асобнымі грамадзянамі ўказаных разлікаў не можа з'яўляцца падставай для адмовы ў засяленні іншым грамадзянам, якія цалкам разлічыліся за выкананыя работы па будаўніцтве пэўных жылых памяшканняў у шматкватэрным жылым доме», сказана ў распараджэнні.

Замоўцы (забудоўшчыкі) шматкватэрных жылых дамоў павінны ў тэрмін, які не перавышае адзін месяц да запланаванай даты прыёмкі іх у эксплуатацыю, скласці дагаворы з тэрытарыяльнымі арганізацыямі па дзяржаўнай рэгістрацыі нерухомай маёмасці, правоў на яе і здзелак з ёй аб правядзенні тэхнічнай інвентарызацыі шматкватэрных жылых дамоў.

У месячны тэрмін з дня прыёмкі дома ў эксплуатацыю павінен быць праведзены комплекс мерапрыемстваў, неабходны для засялення грамадзян у пабудаваныя жылыя памяшканні і выдачы дакументаў для дзяржаўнай рэгістрацыі права ўласнасці на іх.

Забяспечыць выкананне пералічаных даручэнняў павінны аблвыканкамы і Мінгарвыканкам сумесна з Мінжылкамгасам, Мінэнергетыкі, Мінсувязі, Мінбудархітэктуры, Дзяржаўным камітэтам па маёмасці.

Мінжылкамгасу і Дзяржкаммаёмасці даручана каардынаваць працу і праводзіць аналіз выканання распараджэння прэм'ер-міністра. У Савет міністраў будзе штомесяц падавацца інфармацыя пра ход засялення запланаваных да эксплуатацыі ў 2014 годзе шматкватэрных жылых дамоў.

Зацікаўленым ведамствам даручана да 1 кастрычніка гэтага года ўнесці прапановы аб карэкціроўцы заканадаўства, уключаючы ведамасныя нарматыўныя прававыя акты, з улікам даручэнняў, якія змяшчаюцца ў распараджэнні прэм'ер-міністра № 270р ад 20 верасня 2014 года.

Персанальная адказнасць за выкананне гэтага распараджэння ўскладзена на старшыняў аблвыканкамаў і Мінгарвыканкама.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Орша.** А. Лукашэнка зноў запатрабаваў адрадзіць былую славу беларускага льна, але прэзідэнт застаўся незадаволены ўмовамі (шум і пыл) на мясцовым ільнокамбінаце.

**Гарадок.** На працягу двух дзён у раённым цэнтры адбыўся фестываль-ярмарка працаўнікоў вёскі Віцебскай вобласці "Дажынкі-2014", ён праходзіў на дзясятках пляцовак горада.

**Мёры.** Урад РБ вырашыў правесці на мясцовым ільнозаводзе і на аналагічных у Мосары, Лёзне, Коханаве і ў Верхнядзвінску мадэрнізацыю, там заменяць лініі, кацельні.

**Віцебск.** З ахопленага вайной Данбаса ў вобласць пераехалі амаль 1500 уцекачоў, усім украінцам дапамаглі з жыллём, школьнікі пайшлі ў школы, малыя – у дзіцячыя садкі.

**Глыбокае.** Гераяў сёлетняга жніва Глыбоччыны адзначылі ў аграгарадку Удзела на свяце "Дажынак", раён першым завяршыў жніво ў вобласці, намалаціў болей 65 тысяч тон зерня.

**Шуміліна.** Побач з МТФ вёскі Непароты стварылі і ферму па вырошчванні гусей ліндаўскай пароды, іх пагалоўе пакуль 2 тысячы галоў, планы павялічыць да 20 тысяч.

**Браслаў.** У рамках трансгранічнага супрацоўніцтва раённую бальніцу і амбулаторыю ў Опсе наведалі іх калегі з Даўгаўпілскага краю Латвіі, ЕС выдзеліў цэнтральнай раённай бальніцы 221 тысячу еўра.

**Віцебск.** Раніцай у цэнтры горада малады вадзіцель Volkswagena збіў насмерць 76-гадовага пенсіянера, які пераходзіў дарогу ва неўстаноўленым месцы для пешаходаў.

**Бешанковічы.** Мясцовы кузнец Андрэй Трубяцкі ўстанавіў у райцэнтры помнік продкам з пяцілапчатым якарам, знойдзеным ім на дне ракі Заходняя Дзвіна ў рысе горада.

**Чашнікі.** За дачу ілжывых сведчанняў па справе ўзнікшай бойкі ў адным з магазінаў горада суд пакараў 26-гадовага жыхара раёна 9 мільёнамі рублёў штрафу.

**Лёзна.** Па суседству з СШ № 1 пачалі закладку будучага парка выпускнікоў райцэнтра, старшакласнікі высадзілі першых 30 бяроз, з'явілася алея клёнаў, на чарзе – рабіны.

**Шаркаўшчына.** Два дваюрадныя браты загінулі на пажары ноччу ў вёсцы Ёды падчас курэння на падпітку, запрасіў гасцей да сябе інвалід адзначыць з чаркай "дзень пенсіі".

**Дзісна.** Паблізу ад горада мясцовы лясгас на беразе Заходняй Дзвіны ўзвёў другі па ліку драўляны дом паляўнічага, летась ад прыёму кліентаў зарабілі 490 млн. рублёў даходу.

**Гарадок.** На 38 км трасы РФ-Віцебск-Гомель зноў загінула другая па ліку сёлета ласіха, летась на гэтым участку здарыліся падобныя 4 ДТЗ з удзелам ласёў, гіне шмат жывёл.

**Віцебск.** Са скандалам звольнілі з пасады галоўнага трэнера маскоўскага "Лакаматыва" беларускага спецыяліста, былога паўабаронцу ФК "Віцебск" Леаніда Кучука.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

# Глыбоцкі стараста насылаў на касцёлы жандараў

■ Уладзімір Скрабатун

Кастусь Шыталь, адзін з нашых шматлікіх аўтараў, краязнаўца, знайшоў унікальны дакумент. Ён – у беларускай газеце "KRYNICA" ("КРЫНІЦА") за 11.10.1924 г., артыкул пад назвам "Z Dziśnienščyny" ("З Дзісьненшчыны"). Унікальнасць не ў тым, што газета выходзіла на беларускай мове і друкавалася лацінкай – тады шмат газет выходзіла па-беларуску і лацінкай – а ў тэме адраджэння тагачаснага беларускага касцёла ў нашым з вамі краю. Гэтая тэма, чамусьці, мала закранутая нашымі гісторыкамі і краязнаўцамі. Чаму? Мо баяцца ўкваліць палякаў, як цяпер баяцца ўкваліць рускіх.

Аказваецца, быў перыяд – з 1905 па 1921 год – калі на Беларусі распачыналася альбо шырока ўжывалася беларускамоўнае набажэнства ў касцёлах, адкрываліся школы на роднай мове. Гэта адбывалася тут! У Глыбокім, Дзісне, Мосары, Удзеле... І, калі б, Беларуская Народная Рэспубліка ўтрымалася пад націскам бальшавікоў – мы сёння б мелі іншую Беларусь. Але гісторыя не мае ўмоўнага ладу! Што было, каб хада гісторыі пайшла інакш? 18 сакавіка 1921 г была падпісаная Рыжская мірная дамова, якая спыніла савецка-польскую вайну (1919-1921). На падпісанне Рыжскай мірнай дамовы кіраўніцтва Беларускай ССР не толькі не было запрошанае, але і не было праінфармаванае! Без згоды саміх беларусаў палова іх тэрыторыі, па волі "трэцяй сілы", адышла да Польшчы. Палякі на нашай тэрыторыі пачалі дзейнічаць досыць агрэсіўна – закрылі беларускія школы, беларускія ксяндзы адчулі перасслед новых польскіх уладаў, нязгодных высылалі ў парафіі глыбіннай Польшчы, альбо місіянерамі па-за межы Польшчы.

Цяпер самы раз працытаваць вышэй згаданы артыкул, але ўжо кірыліцай з захаваннем стылю і правапісу:

"Гэты куток сягоньня на ўсёй Беларусі ёсьць даволі цікавы. Тут рух беларускі агулам, пераважна-ж у жыцьці касьцельным, пасунуты досыць шырока і глыбока. І хоць цяперака рух гэты спынуты праз вышэйшыя ўлады, як касьцельныя, так і сьвецкія, то ўсёж-такі ня можна лічыць, каб жыцьцё тут наша было без значэньня ў агульным разьвіцьці беларускай думкі. І дзеля яго пішу слоў колькі аб тым, як жыцьцё беларускае ў нас разьвівалася, на чым яно цяпер затрымалася і як далей пойдзе.

Беларуская сьведамасьць пачалася ў масах народных Дзісьненшчыны з першых дзён расейскай рэвалюцыі ў 1917 годзе. Народ тады пачуўся свабодным. Адразу пачаў разьвівацца. У гэтым сваім разьвіцьці народ наш кіраваўся прыроднымі імкненьнямі сваей натуры. Пачулася родная мова з трыбун аратарскіх. У руках нашага селяніна знайшлося друкаванае слова. Па школах дзеці загаварылі па беларуску і свабодна запяялі там свае родныя песьні.

У восень 1917 году праехаў па Дзісьненшчыне біскуп Ропп. З гэтай пары, з лёгкай рукі Кс. Ад(ама) Станкевіча (Дзісна 21.VII.17), пачаліся мовіцца тут па касьцёлах беларускія казаньні. Ліст пастырскі гэтага біскупа да духавенства яшчэ больш украпіў беларускую мову ў касьцеле. Дайшло да таго, што чуць ня ўсе пробашчы Дзісьненшчыны, прынамся ў важнейшыя сьвяты, ці самі, ці праз запрошаных на гэта гасьцей, да верных мовілі навуку па беларуску. Жыцьцё арганізацыйнае тут сярод верных і духавенства так-сама жыва разьвівалася. Паўставалі гурткі і таварыствы сьвецкія і рэлігійныя. Адбываліся частыя дэканальныя зьезды ксяндзоў. Закладаліся школы і прытулкі для бедных дзяцей. Катахізаваліся дзеці пераважна па беларуску. Словам, тады быў залаты час для беларускага жыцьця ў Дзісьненшчыне.

Але прыйшоў 1920 год, а з ім і польскае над Дзісьненшчынай панаваньне. Тады для далейшага свабоднага разьвіцця беларуса загарадзілася дарога. Перш-на-перш ударыла


Nr. 27. 11 Kastryčnika 1924 h. Hod VIII.

KRYNICA

TYDNIOWAJA SIALANSKAJA HAZETA

зьдзіўленьнем мясцовую польскую адміністрацыю беларуская мова ў касьцеле. Туды, дзе жыцьцё беларускае найбольш разьвівалася, стараста Глыбоцкі няраз пасылаў сваіх жандараў з пагрозамі, каб там **перастаць жыць па беларуску**, бо інакш пагражаў гэных ксяндзоў пад суд аддаць і перанясьці на другую парахвію".

***

Так, беларусізацыю касцёлаў у нашым краі звязваюць з імя біскупа Віленскага Эдварда Ропа. Хто ён такі? Унізе – нашая даведка.

І, дарэчы, 2 мільёны католікаў Беларусі мусяць быць удзячныя колішняму біскупу Віленскаму Эдварду Ропу за ініцыяванне царскага маніфесту 1905 года аб рэлігійнай талеранцыі. Бо пасля паўстанняў 1831 і 1863 гг будаваць новыя касцёлы ў нашым краі было забаронена! Усе новыя касцёлы Беларусі маюць дату асвячэння ў 1910-я гг. Ва ўсялякім разе вуліцы імя Э. Ропа могуць быць у Задарожжы і ў Празароках ды шмат якіх гарадах і мястэчках Беларусі, нават у самім Мінску з яго цудоўным касцёлам свсв Алены і Сымона, – усе яны былі пабудаваныя ў 1910-я гг.

**Z DZIŚNIENŠČYNY.**

*Hety kutok siahońnia na ŭsiej Bielarusi jość dawoli cikawy. Tut ruch bielaruski ahułam, pieraważna-ż u życci kaścielnym, pasunuty dosyć šyroka i hłyboka. I choć ciapieraka ruch hety spynuty praz wyšejšyja ŭłady, jak kaścielnyja, tak i świeckija, to ŭsioż-taki nia można ličyć, kab życcio tut naša było biez značeńnia ŭ ahulnym raźwićci bielaruskaj dumki. I dziela taho pišu słoŭ kolki ab tym, jak życcio biełaruskaje ŭ nas raźwiwałasia, na čym jano ciapier zatrymałasia i jak dalej pojdzie.*

*Biełaruskaja świedamaść pačałasia ŭ masach narodnych Dziśnienščyny z pieršych dzion rasiejskaj rewalucyi ŭ 1917 hodzie. Narod tady pačuŭsia swabodnym. Adrazu pačaŭ raźwiwacca. U hetym swaim raźwićci narod naš kirawaŭsia pryrodnymi imknieńniami swajej natury. Pačułasia rodnaja mowa z trybun aratarskich. U rukach našaha sielanina znajšłosia drukawanaje słowa. Pa škołach dzieci zahawaryli pa biełarusku i swabodna zapiajali tam swaje rodnyja pieśni.*

*U wosień 1917 hodu prajechaŭ pa Dziśnienščynie biskup Ropp. Z hetaj pary, z lohkaj ruki Ks. Ad. Stankiewiča (Dzisna 21.VII.17), pačalisia mowicca tut pa kaściołach biełaruskija kazańni.* List pastyrski hetaha biskupa da duchawienstwa jašče bolš ukrapiŭ biełaruskuju mowu ŭ kaściele. Dajšło da taho, što čuć nia ŭsie probaščy Dziśnienščyny, prynamsia ŭ ważniejšyja światy, ci sami, ci praz zaprošanych na heta haściej, da wiernych mowili nawuku pa biełarusku. Życcio arhanizacyjnaje tut siarod wiernych i duchawienstwa tak-sama żywa raźwiwałasia. Paŭstawali hurtki i tawarystwy świeckija i relihijnyja. Adbywalisia častyja dekanalnyja źjezdy ksiandzoŭ. Zakładalisia škoły i prytułki dla biednych dziaciej. Katachizawalisia dzieci pieraważna pa biełarusku. Słowam, tady byŭ załaty čas dla biełaruskaha życcia ŭ Dziśnienščynie.

Ale pryjšoŭ 1920 hod, a z im i polskaje nad Dziśnienščynaj panawańnie. Tady dla dalejšaha swabodnaha raźwićcia biełarusa zaharadziłasia daroha. Pierš-na-pierš udaryła ździŭleńniem miascowuju polskuju administracyju biełaruskaja mowa ŭ kaściele. Nia było tut palaka, jaki-b moh zhadzicca na toje, kab u kaściele dy pa biełarusku hawaryli kazańni. Polskaja administracyja roznymi sposabami zmahałasia z biełaruskaj mowaj u kaściele. Tudy, dzie życcio biełaruskaje najbolš raźwiwałasia, starasta Hłybocki niaraz pasyłaŭ swaich żandaraŭ z pahrozami, kab tam **pierastać żyć pa biełarusku**, bo inakš pahrażaŭ henych ksiandzoŭ pad sud addać i pieraniašci na druhuju parachwiju.

# Эдвард Роп: Ніякі народ не зможа дайсці да высокай культуры без друку і школы ў сваёй роднай мове

**Эдвард Роп, немец па паходжанні, паляк па выхаванні, быў сапраўдным літвінам і сапраўдным патрыётам свайго беларуска-літоўскага краю. Ён зразумеў тое, што не могуць альбо не жадаюць зразумець сёння некаторыя сучасныя высокія беларускія чыноўнікі. Развіццё культур усіх народаў, для якіх Беларусь стала Радзімай, з'яўляецца падмуркам будучага росквіту краіны і нашым сапраўдным скарбам.**

Біскуп Эдвард барон фон дэр Роп належаў да старажытнага нямецкага шляхецкага роду, нарадзіўся на Віцебшчыне ў 1851 г. Праз тры гады бацька (Юлій Роп) атрымаў баронскі тытул. Маці належала да старажытнага шляхецкага роду Плятэраў.

Эдвард Роп, падобна, быў першай высокай афіцыйнай асобай у 20 ст., якая загаварыла пра правы беларускай мовы. Ужо ў верасні 1905 г. біскуп загадаў законанастаўнікам выкладаць беларускім дзеткам рэлігію на іх роднай мове. У адным са сваіх афіцыйных пасланняў ён пісаў: "Беларуская мова мае поўнае права на існаванне і развіццё, а таму павінна вывучацца нароўні з вялікарускай мовай... Беларуская мова не павінна мець перашкод для свайго развіцця..."

Падчас наведвання Эдвардам Ропам **Дзісны,** там адбыўся першы з'езд каталіцкага духавенства і вернікаў **Дзісненскага дэканату.** У сваёй прамове кіраўнік каталіцкай царквы ў Расіі казаў пра неабходнасць адраджэння беларускай культуры. Ён выказаў шкадаванне, што лепшыя сыны Беларусі рознымі гістарычнымі абставінамі былі змушаныя працаваць дзеля чужых народаў. Пры гэтым яны страчвалі сваё аблічча беларуса і забывалі родную мову. Арцыбіскуп выказаў надзею, што ў беларусаў хопіць сіл і магчымасцяў як найхутчэй арганізаваць свае беларускія школы, бо "ніякі народ не зможа дайсці да высокай культуры без друку і школы ў сваёй роднай мове".

Эдвард Роп быў арыштаваны Петраградскай ЧК увесну 1919 г. Яго кінулі ў турму, рабілі допыты кожны дзень, пагражалі забойствам. Ён павінен быў падзяліць лёс, расстралянага бальшавікамі, кіраўніка праваслаўнай царквы патрыярха Ціхана, але не загінуў. Бальшавікі зрабілі жыццё арцыбіскупа прадметам гандлю. З вясны 1919 г. яны вялі тайныя перамовы з польскім урадам пра падпісанне мірнага дагавора коштам беларускай зямлі. Між іншым абмяркавалі і лёс арцыбіскупа. Увосень 1919 г. ён быў перададзены польскім уладам узамен за дазвол бальшавіку Карлу Радэку праехаць праз тэрыторыю Польшчы, каб з Германіі вярнуцца ў Савецкую Расію.

Эдвард Роп пасяліўся ў Варшаве. Ён не меў нянавісці да краіны, якая фактычна выгнала яго. Арцыбіскуп добра разумеў, што сабой уяўляюць бальшавікі, і да чаго можа прывесці іх далейшае панаванне. Ён імкнуўся падзяліць лёс народаў Расіі і вёў перамовы з наркомам замежных справаў Чычэрыным пра сваё вяртанне. Аднак бальшавіцкі ўрад вярнуцца не дазволіў. Калі ў Паволжы распачаўся голад, Эдвард Роп стварыў Камітэт дапамогі галадаючым. Па-ранейшым яго хваляваў лёс Беларусі і Літвы. Неаднаразова святар выступаў супраць палітыкі нацыянальнай асіміляцыі, якую ў адносінах да беларусаў і ўкраінцаў праводзіў урад II Рэчы Паспалітай. Эдвард Роп асуджаў нацыянальны эгаізм партыі Рамана Дмоўскага, якая задавала тон гэтай палітыцы.


**Эдвард барон фон дэр Роп** (1851-1939).
*Біскуп Віленскі 1904-1907), арцыбіскуп Магілёўскі (1917-1919).*

Памёр Эдвард фон Роп летам 1939 г. У 1983 г яго прах быў перавезены ў Катэдральны касцёл Беластока. Так, ужо пасля смерці гэты чалавек амаль вярнуўся ў беларуска-літоўскі край, на сваю Радзіму.

*Паводле Алеся Смалянчука «Забыты біскуп»*

# Усё прыдумана Богам

**Дакументальны фільм, рэжысёр Вольга Швед, 2014 г.**

**БелСАТ зняў адзін з лепшых сваіх дакументальных фільмаў "Усё прыдумана Богам". Кінадакументалісты наведалі глыбоцкія вёскі: Лучайка, Ласькія, Сасноўка, Залессе, Бушыкі, Запруддзе, Загор'е, Сорыкі, Зубкі, Заборцы. Неабыякавых гледачоў фільм кранае да слёзаў. У ім няма ніякага дыктарскага голасу за кадрам, у кадры – толькі насельнікі глыбоцкіх вёсак і іх галасы.**

Стваральнікі фільму адпраўляюцца ў падарожжа па беларускіх вёсках... з аўтакрамаю Глыбоцкага райпо. І трапляюць у самыя далёкія куткі, куды не ездзяць аўтобусы, дзе практычна няма дарог. У гэтых вёсках яшчэ зусім нядаўна жылі сотні людзей, а засталіся лічаныя насельнікі. У тутэйшых школах тры вучні ў класе – звыклая справа. Тут увесь час жывуць у чаканні – глыбоцкай аўтакрамы ды буслоў, якія мо прынясуць унукаў, у чаканні смерці, якая ў гэтых мясцінах – самы часты госць. Але пры гэтым смяюцца і жартуюць, цешацца першымі промнямі сонейка ды працуюць з ранку да ночы.

*– Усё прыдумана мною і Богам!–* такімі словамі пакупніка глыбоцкай аўтакрамы заканчваецца фільм.

*Ул. Скрабатун.*



# Крычаў: нататкі падарожніка

**Напрыканцы мінулага тыдня журналісты з Глыбокага наведалі Крычаў, які размешчаны на самым усходзе нашай краіны.**

**Зміцер Лупач**, *тэкст і фота*

## Горад і гатэль

І вось цягнік падыходзіць да Крычава. На першы погляд: звычайны беларускі невялікі гарадок з даволі прыстойным утульным вакзалам, чаго не скажаш пра наш глыбоцкі. Сустракае нас рэдактар мясцовай газеты "Вольны горад" Сяргей Няроўны. Першае, што кідаецца ў вочы, гэта коміны цэментнага завода, пара з якіх ідзе высока ў неба.

Едзем у мясцовы гатэль, і вось ужо па дарозе параўнанні пачынаюцца ў бок Глыбокага. Па-паршае, прыватныя дамы ў нас больш багатыя, дагледжаныя, у дварах шмат кветак. У Крычаве ж яшчэ часта сустракаюцца прыватныя агароды з буракамі, морквай, капустай, якія размешчаны каля самай дарогі.

Ну, пра мясцовы гатэль або, лепш сказаць, гасцініцу ў стылі "Дзень добры, Савецкі Саюз" – асобая тэма. У нас, у Глыбокім, такога ўжо не пабачыш ні ў дзяржаўным сэрвісе, ні тым больш у прыватным. Гасцініца сустракае нас надпісам "Гостиница работает круглосуточно". Думаю, а як яшчэ можа працаваць такая ўстанова?

Далей ідзе пералік платных паслуг, сярод якіх памыйка ў душы, які размешчаны на першым паверсе гасцініцы. Каштуе такое задавальненне 1700 рублёў.

Пасля едзем на экскурсію па горадзе. Адметнасць Крычава, якая адразу кідаецца ў вочы, яго выцягнутасць уздоўж ракі Сож. Можна сказаць, што горад размешчаны вакол адной вуліцы, і яго працягласць, па словах мясцовых жыхароў, больш за 14 кіламетраў.

## Возера Маладзёжнае

У цэнтры горада ёсць возера. Наогул, у гэтай мясцовасці азёр не шмат, але ў выпадку з гэтым возерам пытанне вырашаецца проста – раней тут быў мелавы кар'ер цэментнага завода. Тут раней нават купацца можна было, але пасля некалькі няшчасных выпадкаў купанне забаранілі. На возеры вельмі глыбокае і няўстойлівае дно.

Зараз тут можна палавіць рыбу. Як сцвярджаюць мясцовыя жыхары, калі пашанцуе, тут можна злавіць вельмі вялікага шчупака, нават большага за рост чалавека. Але ў наш прыезд рыбакоў не бачна, толькі некалькі групаў мужчын на беразе адзначаюць заканчэнне працоўнага тыдня. Тут, як кажуць, "пятніца – свята п'яніцы".

## Гімназія

Першы пункт, куды мы едзем – гэта Крычаўская гімназія, будынак якой абваліўся 29 жніўня гэтага года. На шчасце, гэта здарылася раніцай, яшчэ да пачатку працоўнага дня, таму ніхто не пацярпеў. У школе навучалася больш за паўтысячы дзяцей, якіх размеркавалі па розных школах.

Зараз яшчэ па гэтай справе вядзецца следства, але шмат хто з жыхароў горада ўпэўнены, што адказнасць за здарэнне нясуць мясцовыя ўлады. Некалькі гадоў таму падобная трагедыя ўжо адбылася на Магілёўшчыне, тады пад абломкамі будынку загінулі дзеці. Але высноў з гэтага ніхто з чыноўнікаў не зрабіў.

Цяпер вось падобная трагедыя паўтарылася, на шчасце абышлося без чалавечых ахвяраў. Супрацоўнік мясцовай адміністрацыі, папрасіўшы не называць яго імя, паведамляе:

- *Зручней вырашыць праблему ў самым пачатку, як толькі яе пабачылі. Упусцілі і другі момант: калі гэта цякло гадамі і кіраўніцтва школы звярталася ў раённы аддзел народнай адукацыі, а ён – у вышэйшыя інстанцыі, каб далі на рамонт грошай, то адказ быў адзін: "Грошай няма". Год няма, два, тры, дзесяць… Ёсць недахопы будаўнічага характару, калі клалі пліты апоры: павінна было быць 15 см апоры, а тут – толькі 5 см. Цагліны выпадалі са сцяны, бо не было раствору, а быў пясок.*

Вінаватага да гэтай пары не знайшлі, хутчэй за ўсё здарэнне спішуць на няшчасны выпадак.

Сустракаем дзяцей, якія бягуць на аўтобус. Гэта былыя вучні гімназіі, зараз іх



**Коміны цэментнага завода.**

параскідалі па розных школах горада. Яны шкадуюць аб сваім дружным класе, бо зараз ім трэба ўлівацца ў новыя калектывы. Вучні кажуць, што яшчэ вясной бачылі трэшчыны ў актавай зале школы.

Усё ж ім пашанцавала, што канструкцыя абвалілася за некалькі дзён да 1 верасня. А каб гэта здарылася на лінейцы? Цяжка ўявіць.

## Цэментныя заводы

Далей едзем на стары цэментны завод. Ён працуе яшчэ на мокрым спосабе прыгатавання цэменту. Сыравіна для яго, а гэта мел, падаецца ў вадкім выглядзе па трубах з кар'яра, які размешчаны больш як за 5 кіламетраў ад завода. Цэмент прыгатоўваецца ў доўгіх нахіленых печах, якія ўвесь час круцяцца. Знізу печы падаецца полымя, якое высушвае цэментную масу.

Раней печы працавалі на мазуце, зараз на газе. Гэта некалькі знізіла сабекошт цэменту, але, галоўнае, палепшыла экалагічную сітуацыю вакол горада ды і ў самім горадзе, бо завод збудаваны побач з Крычавам.

Далей высушаная маса паступае на адмысловыя млыны, якія размолваюць яго да такога стану, якім мы прывыклі яго бачыць. І вось гэтыя млыны - асноўны пастаўшчык пылу ў навакольнае асяроддзе. Мы, як прыезджыя, адразу адчуваем цэментны пыл у горле.

Нядаўна сумесна з кітайцамі быў збудаваны новы завод, які працуе на сухім спосабе. Там вільготнасць масы ў два разы ніжэйшая, чым пры мокрым спосабе. Адпаведна, затрачваецца менш энерганосьбітаў для яе высушвання, што зніжае сабекошт цэменту і аказвае меншую экалагічную нагрузку на навакольнае асяроддзе. Ды і збудаванае прадпрыемства за некалькі кіламетраў ад горада.

Але экалагічныя праблемы тут таксама з'явіліся. Як сцвярджаюць мясцовыя калегі-журналісты, у дзвюх вёсках, размешчаных непадалёк ад кар'ера, стала прападаць вада ў калодзежах. Але беларуская рэальнасць: вяскоўцы, пабачыўшы журналістаў з камерамі і дыктафонамі, пабаяліся размаўляць з намі на гэту тэму. Маўляў, з вадой у нас ніякіх праблем няма. Ну, калі ў вас няма, то ў нас – тым больш, – вырашаем мы і едзем далей.

Раней гэтыя заводы працавалі паасобку, зараз іх аб'ядналі. Новая адміністрацыя знаходзіцца зараз на новым заводзе, стары ж адміністрацыйны будынак ужо два тыдні як амаль пусты. Тут зараз знаходзіцца мытная служба, вартаўнік і яшчэ некалькі спецыялістаў. Будынак вартуе бюст Ільіча, які сіратліва стаіць каля будынку. Праўда, не толькі бюст. Вартаўнік заўважыў, што мы здымаем, і прыйшоў высвятляць, хто мы такія.

Мы ў сваю чаргу патрабуем у яго прадставіцца. Ён, не прадстаўляючыся, ідзе ў свой кабінет, дзе некаму тэлефануе. Мы едзем далей, у суседні Мсціслаўскі раён у Пустынкі, якія размешчаныя ў некалькі сотнях метраў ад мяжы з Расіяй.

## Пустынкі

Галоўная славутасць гэтага месца – Манастыр Успення Прасвятой Багародзіцы.

Храм у пустынках быў пабудаваны над крыніцай, каля якой, згодна з легендай, у 1380 годзе зноў вярнуў сабе зрок князь Лугвен, сын Альгерда. Пасля гэтага тут быў заснаваны манастыр, які і праіснаваў тут да пачатку XX стагоддзя.

З прыходам савецкай улады манастыр быў зачынены, а яго будынкі выкарыстоўваліся для розных патрэбаў. Падчас вайны ў Пустынках не пацярпеў ні адзін будынак. Пасля вайны тут быў дзіцячы дом.

Але вось надышлі часы ваяўнічага атэізму. Будынкі пачалі ўзрываць выбухоўкай, ламаць трактарамі. Калі ўжо зламалі ўсё, закончыць працэс разбурэння пакінулі прыродзе. У такім стане руіны манастыра дастаялі да 2003 года, калі тут з'явіліся першыя манахі-энтузіясты. Яны пачалі адбудоўваць святыню. І адбыўся цуд – на адной са сцен былой школы праступіла нерукатворная выява Хрыста.

Працы па рэстаўрацыі ідуць не так хутка, як хацелася б, але яны ўсё ж ідуць. Шмат дапамагаюць бізнесоўцы з суседняй Расіі. Таму хочацца спадзявацца, што пройдзе час – і манастыр будзе цалкам адноўлены.

Мы наведваем цудатворную крыніцу, каля яе нядаўна збудаваная невялікая царква. Побач з крыніцай ёсць купель, вада ў якой круглы год мае тэмпературу каля чатырох градусаў. Мясцовыя распавядаюць, што вада валодае цудадзейнай сілай. Што ж, вырашаю праверыць.

Пры першым пагружэнні ў ваду - займае дух, але пасля трэцяга ўжо адчуваю сябе добра. Калі ж вылажу з вады, то сапраўды адчуваецца бадзёрасць і прыліў сіл. Таму штосьці асаблівае ў гэтым месцы ёсць.

Заходзіць сонца, і мы вяртаемся ў Крычаў. Спадзяёмся, што прыехалі сюды не апошні раз. Нягледзячы на свае недахопы, горад нам усё ж спадабаўся.

## Мова

Асобна хацелася б сказаць пра беларускую мову. Яна тут ёсць, але размаўляюць на ёй значна менш, чым у нас на захадзе краіны. Міжволі паўстае пытанне – дык хто ж душыў беларусаў больш: савецкія камуністы ці польскія паны?

А вось на вакзале ўсё беларускамоўнае: і расклад, і назва станцыі, і аб'явы на сцяне. Што, у сваю чаргу, можа быць прыкладам для нас. Толькі, на жаль, супрацоўнікі вакзала беларускай мовай амаль не карыстаюцца.

Напрыканцы хацелася б адзначыць, што такія паездкі ў іншыя рэгіёны краіны вельмі карысныя, яны даюць магчымасць параўнаць, што лепш у іх, што ў нас. Спадзяюся, што і надалей мы будзем даваць матэрыялы на гэту тэму.



**Руіны гімназіі ў Крычаве.**



**Новы цэментны завод у Крычаве.**



**Руіны манастыра ў Пустынках.**

## Віншаванкі

Людмілу Мікалаеўну Рэкуць

**Віншуем з 55-годдзем!**

Тебя поздравить очень рады
И с восхищеньем говорим:
С тобою встречи, как награда,
Мы все тебя боготворим
Не преклоняйся пред печалью,
И не грусти в ночной тиши.
Тебя сегодня поздравляем,
Желаем, счастья от души.
Пусть годы мчатся чередой,
Минуя все ненастья,
Мы Вам желаем всей душой
Любви, здоровья, счастья.

*Муж, сын, дачка і іх сем'і.*



# Заробак у 40% работнікаў у Беларусі складае менш, чым 500 даляраў

**Сярэдняя зарплата ў 12 087 арганізацыях складае менш чым 5 млн. беларускіх рублёў, сведчаць даныя афіцыйнай статыстыкі.**

У гэтых арганізацыях працуе прыкладна 1,27 млн. чалавек. Спісачная колькасць работнікаў усіх юрыдычных асоб, улічаных афіцыйнай статыстыкай, складала ў жніўні 3,21 млн. чалавек.

Такім чынам, зарплату менш чым 5 млн. беларускіх рублёў у жніўні атрымлівалі амаль 40% работнікаў.

У жніўні, паводле афіцыйнай статыстыкі, сярэдняя зарплата ў Беларусі склала 6,36 млн. рублёў і ўпершыню знізілася ў 2014 годзе ў параўнанні з папярэднім месяцам.

Зніжэнне зарплат у жніўні ў параўнанні з ліпенем адбылося ва ўсіх рэгіёнах: у Мінску і Брэсцкай вобласці — на 2,3%, у Гомельскай — на 1,8%, Магілёўскай — на 1,5%, Гродзенскай — на 0,6%, Віцебскай — на 0,3%, Мінскай — на 0,03%.

*БелаПАН*



## Біскуп Алег Буткевіч:
# Месца мужчыны – у першых радах касцёла

■ **Зміцер Лупач**

**Біскуп Віцебскай дыяцэзіі Алег Буткевіч у нядзелю, 28 верасня, наведаў былое мястэчка Дунілавічы ў Пастаўскім раёне.**

Хаця біскуп Алег быў у Дунілавічах не першы раз, гэта быў яго першы візіт у парафію ў якасці кіраўніка дыяцэзіі.

Падчас Імшы іерарх звярнуў увагу, што ў касцёле прысутнічала шмат мужчын, што вельмі добры знак. Усталявалася думка, што малітва – гэта жаночая справа, – адзначыў віцебскі ардынарый, – але гэта не так. Мужчына з'яўляецца галавой у сям'і, і ад яго прыкладу залежыць вера ў яго жонкі і дзяцей. Таму біскуп заклікаў мужчын не саромецца сваёй веры і прыходзіць у касцёл.



# Памятайце аб правілах бяспекі на паляванні



**Загонавае паляванне ў шмат каго асацыюецца з заснежаным лесам, белым полем і марозным паветрам. Такое паляванне – гэта не толькі адрэналін, усплёск эмоцый, здабытае мяса, але і жывыя зносіны, і абмен вопытам.**

■ **А.Г. Абрамчык,**
*дзяржаўны інспектар Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і раслліннага свету*

З 1 кастрычніка па 31 снежня адкрываецца асеннезімовае паляванне ружэйным спосабам, загонам, з засады, з падыходу, у тым ліку з паляўнічымі сабакамі, пароды па рашэнні карыстальніка паляўнічых угоддзяў на лася, аленя, дзіка, казулю еўрапейскую.

Знаходзячыся на паляванні, неабходна ў першую чаргу памятаць аб правілах бяспекі і выконваць патрабаванні кіраўніка палявання. Кіраўнік вызначае загоншчыкаў, забяспечвае расстаноўку на нумары стралкоў, кожны стралок, які стаіць на нумары, павінен ведаць размяшчэнне суседніх нумароў і ўсёй стралковай лініі, забараняецца самастойна выбіраць месца і сыходзіць з нумара да заканчэння загону. Паказаны асобныя моманты, за якія паляўнічыя будуць прыцягвацца да адміністрацыйнай адказнасці.

Прадоўжаны тэрміны загоннага палявання на дзіка з сабакамі, якія маюць палявы дыплом па дзіку, з 1 студзеня па 31 студзеня. Згодна з Пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 25 ліпеня 2014 года №729 дазваляецца паляванне на дзіка загонам без выкарыстання паляўнічых сабак у светлы час сутак ва ўсе дні тыдня з абавязковым папярэднім паведамленнем дзяржаўнай інспекцыі аховы жывёльнага і раслліннага свету.

**Пра ўсе парушэнні природаахоўнага заканадаўства вы можаце паведаміць па тэлефоне даверу 8 (02156) 28670 або на мабільныя тэлефоны: МТС 897-23-02, МТС 890-55-28, МТС 249-45-49, МТС 645-66-78.**

# З некаторымі арандатарамі прыйдзецца развітацца

**Працягваецца восень, стаяць цёплыя дні, і рыбаловы працягваюць актыўную рыбалку, у тым ліку падводную, тролінгам, кружкамі. У сувязі з чым неабходна нагадаць, што на рыбалцы трэба выконваць Правілы вядзення рыбалоўнай гаспадаркі і рыбалоўства Рэспублікі Беларусь.**

■ **А.Г. Абрамчык,**
*дзяржаўны інспектар Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і раслліннага свету*

Да прыкладу, нельга лавіць рыбу больш чым на 5 кручкоў адначасова, за выключэннем вадаёмаў спецыяльна выдзеленых для вядзення інтэнсіўнага рыбалоўства. Да ведама рыбакоў-аматараў, на тэрыторыі Глыбоцкага раёна зарэгістравана 9 арандатараў рыбалоўных угоддзяў, якія таксама павінны выконваць правілы вядзення рыбалоўнай гаспадаркі і рыбалоўства.

Адзін з пунктаў Правілаў, які павінны выконваць арандатары, гэта ўтрымліваць у належным санітарным стане берагі рыбалоўных угоддзяў, але не ўсе яго выконваюць, для некаторых галоўнае - паставіць сетку і злавіць пабольш рыбы.

Так, 28 верасня гэтага года пры абследаванні берагавой лініі возера Свідава, арандаванага КФХ «Свідава», каля кладкі, па якой штодня ходзіць сам арандатар, раскіданыя пластыкавыя бутэлькі, бытавое смецце, пакеты. У дзесяці метрах ад дадзенай кладкі затрыманы грамадзянін Н. з сеткамі, які нібыта працуе ў дадзенага арандатара, за ўсе парушэнні складзеныя адміністрацыйныя пратаколы, за якія пагражае суровае пакаранне.

Месяц таму дадзены арандатар падвяргаўся адміністрацыйнаму пакаранню за выдаленне дрэў у прыбярэжнай паласе возера Свідава, з такімі арандатарамі дамовы арэнды рыбалоўных угоддзяў будуць скасоўвацца.

***

**Пра ўсе парушэнні природаахоўнага заканадаўства вы можаце паведаміць па тэлефоне даверу 8 (02156) 28670 або на мабільныя тэлефоны: МТС 897-23-02, МТС 890-55-28, МТС 249-45-49, МТС 645-66-78.**

